ТАРАС ГУШЧА
(ЯКУБ КОЛАС)



# КРОК ЗА КРОКАМ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1925




# ВАСІЛЬ ЧУРЫЛА

*(Апавяданьне з жыцьця лясьнікоў)*

## I

Лес шумеў неяк вельмі нудна.

Лес рэдка калі маўчыць.

Прывычнае вуха лавіла ў ім галасы, але ніхто яшчэ ня ўнікнуў у тайну яго мовы; толькі сэрца смутна адгадвае ў ім нуду і трывогу.

Касматыя яловыя вяршыны трасьліся, як у шалёным танцы. Лапы то падымаліся, то апускаліся, як-бы лавілі нявіднага ворага, які не даваў спакою і прымушаў трасьціся лес.

Лес шумеў. Смутна шумеў стары лес.

З краю лесу стаяла хатка лясьніка, Васіля Чурылы. Маленькае ваконца хаткі смутным значком пазірала ў поле. Здалёк яно здавалася воўчым вокам. Над самым ваконцам зьвісла голая вярбіна і глуха шумела, усё роўна як стагнала.

Маленькая лямпачка тускна сьвяціла ў хатцы.

Агонь баязьліва дрыжаў, і чуць заметна скакаў і пераліваўся мрок па сьцяне. Каля стала сядзела жонка Васіля, Алеся. Ёй нічога не хацелася рабіць, дый работа падала з яе рук.

Дзеці даўно ўжо спалі.

— Дзе-ж гэта Васіль?—з уздохам пытала Алеся.

Васіль ня першы раз прыходзіў да дому ў такі позны час. Знала Алеся сабаччу лясьнікову службу, знала пана лясьнічага, што то быў за чалавек. Але, чаму-ж так нудна і страшна за Васіля сягоньня? Алеся і сама гэтага ня знала, толькі нейкая глухая трывога залезла ў душу і, як чарвяк, грызла сэрца.

Доўга чакала Алеся Васіля. Перадумала ўсе няшчасьці і здарэньньні, якія маглі прылучыцца з Васілём у гэту неспакойную ноч.

А лес усё шумеў. Нудна шумеў стары лес...

II

Дзе-ж дзеўся Васіль?

Ужо пачынала зьмяркацца, як паслаў яго лясьнічы з лістам да суседняга двара.

Была ўжо глыбокая ноч, покі зашоў Васіль у двор да пана. Пан затрымаў Васіля на некалькі часу, покі пісаў адказ лясьнічаму. Ніхто ня спытаў Васіля, ці ён еў; ніхто не накарміў галоднага. І вышаў Васіль ад пана з горкай крыўдай у сэрцы...

Беднасьць заправіла Васіля кінуць бацькаву хату і йсьці ў лясьнікі. Нямала прышлося яму паабіваць панскія парогі, ня раз мусіў ён стаяць прад панам лясьнічым, цалаваць яму рукі, гнуцца.

А ўсё гэта любіць пан. Тое лясьніцтва—глухі вугалок Беларусі,—у каторым служыў Васіль, захавала ў сабе яшчэ старыя парадкі таго цёмнага часу, калі было права памяняць чалавека на сабаку, таго часу, каторы зваўся „паншчызнай“, Жыцьцё йшло далей сваёю дарогаю, ішло, шырылася, а гэты кут аставаўся глухім, акамянелым, і сьвет жыцьця новага адскакваў ад яго, як адскаквае луч сонца ад ледзяной гладзі.

Ішоў Васіль адзінокі, нудны.

Сьнег хутка замятаў дарогу, вецер зьбіваў Васіля з ног, а горкія думкі, як пчолы, кружыліся над яго галавою. Усё яго жыцьцё, усе думкі былі ў тым, каб скарэй збавіцца ад сабачай службы. Дастаць-бы кусок зямлі, пабудаваць сваю хату і жыць, нікога не баяцца, нікому ня гнуцца.

А тут што?

І ўсё лясьнікова жыцьцё яго ўстала прад ім, як жывое, усё роўна як пазіраў ён на яго, як на адзін цэлы закончаны абраз уніжэньня і крыўды.

III

А вецер усё крапчэў. Васіль адвярнуў каўнер кажушка, глыбей насунуў на вушы круглую шапку, апусьціў стрэльбу рулям уніз, каб не надзьмула сьнегу. Лес скончыўся. Васіль вышаў на адкрытае месца. Ён усё думаў аб сваім жыцьці, аб лясьніковай службе.

Яшчэ-б, сказаць, можна было-б служыць, каб трымаўся толькі службы. Але ўся бяда ў тым, што лясьнічы папіхаў

лясьніка да ўсяго, як дарэмнага каня. Пры аднэй толькі думцы бачыцца з лясьнічым, мароз прабягаў па скуры Васіля. Васіль ня раз гаварыў, што лепей хацеў-бы ён сустрэцца з гадам або воўкам, як папасьці на вочы лясьнічаму. Ня раз стаяў Васіль, як палатно белы ад крыўды і несправядлівасьці, выслухваючы спавяданьні пана лясьнічага. Рукі самі згортваліся ў кулакі, і ня раз нейкая сіла падбівала Васіля кінуцца на лясьнічага, разьбіць твар, кінуць аб зямлю, таптаць нагамі, біць, біць бяз жалю, без міласэрдзя. Тады-б, здаецца, спагнаў сваю злосьць, адамсьціў-бы за ўсе зьдзекі і ўніжэньні. Але ўспамінаў Васіль, што ў яго ёсьць жонка, ёсьць маленькія дзеткі, і рукі самі апускаліся, і стаяў ён акамянелы, маўчаў—ні слова. Што-ж, кінуцца на пана? А што далей? Далей—астрог, жабрацкая торба. Далей гэтых граніц ня ходзіць забітая, прыніжаная душа простага чалавека.

Лаяўся пан лясьнічы, як праўдзівы майстар свайго дзела. Лаянка яго лілася доўга, плаўна, без запінкі. Кожнае слова было ўзважана і біла па сэрцы цяжкім абухом. Адным словам, думаў Васіль, абмылкаю нейкаю прышоў на сьвет гэты чалавек і заміж астрогу або вар'яцкага дому папаў у лясьнічыя. А ўрэшце, чорт яго разьбярэ, хто жыве тут не па абмылцы. На гэтым пункце спатыкаліся мысьлі Васіля і не маглі здалець яго, бо далей прад вачыма яго адкрывалася многа непанятных парадкаў, за каторыя можна папасьці ў турму або чорту на скавараду.

## IV

У тахт думкам Васіля сьпяваў вецер у полі нікому непатрэбныя песьні. Васіль так углыбіўся ў свае думкі, што забыўся дзе ён, куды йдзе.

Васіль стаў, каб разглядзець, дзе ён. Ногі яго па кален ўлазілі ў сьнег. Але што разгледзіш у такую ноч? Неба зьмяшалася з зямлёю... Шырокі прастор поля звузіўся ў чорную бочку, і нічога не магло разглядзець вока адзінокага Васіля. Усё роўна як нехта выкінуў яго, непатрэбнага, беднага ў гэтую зяўру страшнай ночы, прынёсшы ў ахвяру сярдзітай буры, каб яго жыцьцём купіць сабе спакой.

— Дзе-ж я?—трывожна спытаў сябе Васіль.

І адразу ахваціў яго страх, самы большы страх чалавечы— страх за сваё жыцьцё. Рукі яго апусьціліся, яму захацелася прысесьці. Але ня сеў Васіль і стаў перабіраць нагамі ў глыбокім сьнягу, як спутаны.

А думкі, бесталковыя, дзікія думкі заварушыліся ў ім скора-скора, як сьнег, каторы з усіх старон так бязжаласна сыпаўся на Васіля. То думалася Васілю, што ён сам шукае сваёй магілы, то здаваліся прад ім сьцены, каменьні, гатовыя кожны момант наваліцца на яго ўсім цяжарам. Яму здалося, што ён адышоўся далёка-далёка... Ужо раз спатыкнуўся Васіль, вецер зьбіў яго з ног. Ён выбіўся, як яму паказалася. У яго думках праясьніліся азярыны ў высокіх берегах, замеценыя сьнегам, але ніколі не замярзаючыя. Сьнег усё глыбейшы і глыбейшы, а сілы ўсё таюць і таюць. От ён зусім выбіўся з сіл, залез у сьнег па пояс і ня можа ўжо мясіць яго адзервянелымі нагамі.

## V

— А-а-а-у!

Васіль і ня думаў крычаць, як ня думаў ён і плакаць. Дзікі крык вырваўся сам проці волі Васіля, і самі пацяклі сьлёзы.

Вецер падхапіў яго немы крык, рвануўся з імі тут-жа загубіў яго, расьцёр, як мыльную бурбалку.

— Хто я? Васіль?

— Васіль, хто-ж я?

— Што-ж ты тут робіш?

— Сяджу ў сьнягу.

— Ну, Васіль, гайда да дому!

Усё ў ім мяшалася, і сама сабою навязалася яму гэтая бесталковая гутарка...

У вачох яго як-бы прасьвятлела. Усюды, куды ён ні гляне, віднеліся морды лясьнічага, яго вышчараныя зубы. Гэтых морд набралася многа-многа; яны абніmаліся, скакалі, варушыліся, як па камандзе, дрыжэлі, як лісьця асіны перад навальніцаю.

А вунь там відаць худы, змучаны, заплаканы твар Алесі... Вунь яго дзеці...

А лясьнічыя скачуць, насьмяхаюцца з Васіля, падаюць яму рукі і борзьдзенька прымаюць, як толькі Васіль памыкаўся ўзяцца за іх.

Рвануўся Васіль са злосьці на лясьнічых!

Ї пачуў Васіль лёгкасьць, як-бы ён павіс над зямлёю. Ён ціха апусьціўся, стаў лёгка, свабодна ўлазіць у нешта мяккае і халоднае. От як-бы затрымаўся... Чуў ён яшчэ, як лопнуў рэмень на яго стрэльбе, як улазіў уніз... болей нічога ня чуў Васіль.

Вецер сьпяваў яму цяпер „вечны пакой“.

## БУНТ

### 1

Нешта трывожнае і патаённае рабілася ў вёсцы. Сяляне зьбіраліся ў кучкі, спрачаліся між сабою і талкавалі. Як толькі паяўляўся старшыня ў гэту кучку, яны змаўкалі або пачыналі гаварыць аб чым-небудзь другім.

Вечарамі сяляне зьбіраліся ў крайнюю хату дзеда Юркі. Гэта быў самы стары чалавек у вёсцы, як жывая кніжка. Дзед нікому не баяўся сказаць у вочы праўду; на ўсіх, нават на земскага начальніка казаў ён „ты“. Раз на судзе ў валасным праўленьні земскі сказаў на дзеда, як дзед рэзнуў яму адну праўду:

— Гэта цябе не касаецца, стары бацук!

Гневам заблішчэлі вочы дзеда:

— А што, ня так баліць, як сьмярдзіць?

І, памаўчаўшы, дабавіў з гневам, глянуўшы на вусы земскага:

— Ой, падла, хрушч, жабіны начовачкі!—Плюнуў дзед і вышаў з канцэлярыі.

Сабраўшыся ў хаце вось гэтага Юркі і закурыўшы люлькі, сяляне садзіліся каля стала, над каторым смутна блішчэла лямпа. Дзед сядзеў на лаўцы каля печы. У пячурцы ляжаў яго капшук з тутуном і крэсіва. Вакруг дзеда круціліся ўнукі. Некалькі хвілін у хаце панавала цішыня. Толькі дым ад люлек зьвісаў над стольлю, хрыпеў часам чый-небудзь цыбук ды стукаў хто люлькаю аб кіпець, выбіваў з яе попел.

Гутарка йшла аб зямлі, аб цяперашнім уціску народу.

Сьцёпка Ляўшун у гэтых справах быў самы дук ува ўсім сяле. Гарою стаяў ён проці крыўды вобчаства і на сходах быў першы праціўнік начальства. Ня любілі яго ні пісар, ні старшыня. Нават сам земскі наводзіў часта спраўкі ў старшыні пра Сьцёпку Ляўшуна. Адным словам, гэта быў чалавек „падазрыцельны“, і поп ня раз казаў:

— Да, Ляўшун врэдны чалавек. Ды і народ з яго ласкі стаў не такі, як быў раней: нядобрае ён нешта замышляе; пазірае воўкам і гаварыць з табою ня хоча. Трэба пазіраць за ім.

— А вот у мяне ёсьць сьвежы лісток,—казаў той самы Сьцёпка сабраўшымся сялянам і даставаў з-за пазухі пракламацыю.

Сяляне цесным кружком садзіліся каля Сьцяпана. Лямпу зьнімалі на стол і ставілі яе ў гаршчок. Лісток чыталі доўга. Многа было ў ім незразумелага для сялян. Былі там такія словы, каторых яны ніколі ня чулі.

— А праўда!—казалі сяляне, як лісток дачытваўся ўвесь:— у нашай, напрыклад, воласьці шэсць вобчастваў, а каб памерыць нашу зямлю, то ў нас яе будзе пэўна меней, як у двары.

— Меней!—засьмяяўся Сьцяпан:—у нас усяго 3 тысячы маргоў, а ў пана—27 тысяч! Гэта я добра ведаю.

— От ты і шукай праўды!

— Шукай—нойдзеш!..

Далей сяляне гаварылі аб тым, як цяпер трудна ім стала жыць; што дваровае поле, як падкова, абкружыла іх благія палеткі і што няма як і кроку ступіць, каб не папасьці ў панскія лапы.

—Эгэ!—круціў стары Юрка сівою галавой, а я, нябогі, яшчэ сам, як быў маладым хлопцам, пасьвіў быдла пад Дубамі. А ў затоках, што цяпер арандуе старшыня і царкоўны стараста, усё сяло лавіла рыбу. А рыбы, рыбы было!

І дзед ня раз гаварыў пра зямлю пад Дубамі, пра заплавы на рэчцы, каторыя калісь-то належалі да мужыкоў.

Сяляне слухалі, і злосьцю і зайздрасьцю гарэлі іх вочы.

## II

— На начлег сюды мы езьдзілі,—гаварыў стары Юрка, ходзячы раз у сьвята з сялянамі па полі, — коняй тут пасьвілі. Пад гэтымі старымі дубамі агонь калісь-то клалі. І дзед прыглядаўся на зямлю, як-бы шукаў даўнейшага вогнішча, каб падцьвярдзіла яно яго праўду. Але ня было ніякага знаку: пяцьдзесят панскіх ніў вырасьлі ўжо на гэтым полі.

— Сьмех і песьні хлопцаў і дзяўчат будзілі некалі начны спакой гэтых палёў. Увесь кавалак аж да Сярэдніх Дарог засявалі нашы мужыкі...—даканчваў дзед сваю мову.

Мужыкі хадзілі з хмурымі тварамі і мерылі шырокімі крокамі поле, каторае належала цяпер да двара. Яны астанаўляліся, радзіліся, шукалі спосаб вярнуць сваю зямліцу.

— А вы вось 'шчэ пахадзілі-б па полі,—сьмяяўся з іх дзед: —можа што і выхадзілі-б.

— А што-ж ты кажаш рабіць?—пыталіся сяляне.

— Мне ня трэба зямлі. Я, брат,—у вырай скора; досі тапталі мае ногі сырую зямлю. Вунь дзе мая зямля!—і стары Юрка паказаў рукою на могілкі з трухлявымі крыжамі, што сіратамі стаялі ў полі, як і самі могілкі, абкопаныя нявысокім пяшчаным валам.

Раз, ужо ў позьнюю восень, грамада мужыкоў прываліла ў школу. Сьцяпана выбралі дэпутатам і адправілі яго да вучыцеля.

— Пане вучыцель,—пачаў Сьцяпан, прышоўшы на кватэру вучыцеля: мы маем да вас просьбу. Ніколі вы нам кепскага не рабілі і кажаце нам адну толькі праўду. Напішэце вы нам пэтыцыю (прашэньне) да пана. Самі мы малаграматныя, а прасіць, апроч вас, няма каго: поп запужае нас пеклам, пісар—казакамі.

І Сьцёпка расказаў, у чым іх просьба.

— Вось паглядзеце на плян, калі ня праўду мы гаворым.

Сьцёпка дастаў з-пад кажуха бляшаную качалку, у каторай быў плян і ўсякія дакуманты.

— Праўда: па пляну—зямля ваша—сказаў вучыцель,—толькі, браце, ня ведаю, ці паможа вам гэта пэтыцыя. Гэта выйдзе ня больш і ня менш, як страляньне вараным гарохам у цагляную сьцяну. А вы з панам нічога не гаварылі аб гэтым?

— Як не гаварылі?—гаварылі. Першы раз нам сказалі, што пана няма ў хаце, другі раз пан сказаў, каб прышлі іншым разам; а трэці раз, як прышлі, пан накрычаў, нашумеў—небаяўся; казакоў быў повен двор—і, паказаўшы сваю панскую сьпіну, ён схаваўся ў пакоях. Вось і ўся наша гутарка з панам.

— Ну, то добра. Я напішу вам; прыходзьце вечарам—падпішацеся.

— Дзякуем вам, пане вучыцель!

Увечар, як рой пчол, гудзелі сяляне ў школе. Яны

прышлі ўсім сялом паслухаць, што напісаў вучыцель, і падпісаць пэтыцыю. Вось коратка, гэта пэтыцыя:

„Вам (пану) павінна быць ведама, што робіцца цяпер у Расіі. Льлецца кроў, гараць панскія палацы... Людзям няма куды дзявацца, няма чаго есьці, і яны пашлі адбіраць ад паноў тое, што паны адабралі ад іх. Мы ня хочам грабіць і паліць, каб чужою крывёй і сьлязьмі купіць сабе шчасьце; ня хочам браць чужога, а трэбуем ад вас таго, што вы ўсякімі канцэлярскімі кручкамі адабралі ад нас: 1) вярнуць назад зямлю ў урочышчы Дубы, каторая, як значыцца на пляне, належыць да нас; 2) вярнуць права карыстаць з рэчкі: лавіць рыбу, зьбіраць чарот і г. д.

Чакаем скорага і пэўнага адказу“...

— Добра напісана!—хвалілі мужыкі.

І мазалістыя рукі з вялікім трудом пісалі фаміліі сваіх уласьнікааў. Крывыя подпісы сялян занялі ўвесь ліст паперы.

— Як пазволіць пан лавіць рыбу, дык тады панічу будзе рыбы, колькі паніч захоча!—казалі мужыкі вучыцелю.

## III

Прачытаўшы пэтыцыю, пан не драмаў. На тройцы коняй панёсься ён у павятовы горад П. проста да маршалка. Усё начальства паднялося на ногі. Паклікалі паліцмайстра, спраўніка, земскага начальніка, прыстава, казацкага афіцэра. На гэтым ваенным савеце-радзе нашлі, што мужыкі бунтуюцца. Казацкі афіцэр навёў спраўкі, колькі ў вёсцы мужыкоў. Расчытаўшы, што адзін казак „у пяць мінут можа забіць дваццаць пяць мужыкоў“, ён сказаў, што для „ўсьмірэньня“ мужыкоў досіць будзе дваццаці казакоў.

Спраўнік паслаў у вёску выведаць, хто пісаў пэтыцыю.

Нічога аб гэтым ня ведалі сяляне і ўсё чакалі ад пана адказу. А як пан адказу не пасылаў, то сяляне, уважаючы, што закон яны споўнілі, сабраліся ізноў і напісалі прыгавар лавіць рыбу ў тых затоках, каторыя па пляну належалі да іх. Узваліўшы на сані невад, чалавек дванаццаць сялян пад камандаю Ляўшуна паехалі на рыбу. Як на грэх, лоў быў шчасьлівы. Пападаліся найбольш ліны і шчупакі.

За высокім сухім чаротам нічога ня бачылі рыбакі.

Толькі што яны выбралі рыбу з апошняй тоні, бачаць— лятуць на іх казакі ў высокіх касматых шапках. У бедных „бунтароў“ і люлькі павыпадалі з зубоў на лёд, адна нават укінулася ў палонку.

— Кладзі невад на сані!—крыкнуў адзін казак.

Пакорна споўнілі сяляне гэта прыказаньне, худая кабылка цягнула мокры невад і цэбар з рыбаю, а мужыкі, апусьціўшы галовы, ішлі за возам, падганяныя казацкімі нагайкамі.

Бедных мужыкоў вялі цераз сяло. Дзеці галасілі на ўсю вуліцу; бабы прычыталі, як па нябожчыках.

На другіх санях, на абапал каторых ехалі конна казакі, сядзеў вучыцель. На ім было халоднае паліто і летняя шапка.

— Вось і рыбы налавілі, і на санях, як губарнатары, пад ахранай павозімся,—жартаваў вучыцель, каб разьвесяліць кампанію, а сам такі бледны, і гора сьвяцілася ў кожнай яго жылцы...

## НАТАЛЬКА, ДЖОН і МУХА

*(Малюнак з натуры)*

Бываюць-жа такія нядобрыя здарэньні на сьвеце! Ї горш за ўсё тое, што гэта здарэньне якраз налучыла маленькую Натальку.

Натальцы пашоў толькі восьмы гадок. Але Наталька такая маленькая, такая шчупленькая, што яна выглядала нават меншай, як на свае леты. Можа гэта залежала ад таго, што жыла Наталька ў горадзе, дзе так мала прастору і сонца, дзе высокія дамы засланяюць шырокія разлогі яснага неба, дзе так мала сьвежага і чыстага паветра палёў, зялёнага луга і леса. Ї яшчэ, небажата, трэба ўзяць на увагу і тое, што Наталька мусіла, праўда, па меры сваіх сіл, спаўняць такую-сякую работу: няньчыць яшчэ меншую сястрычку Алесю і наглядаць за крыху большым ад Алесі братам. А Ўладзік, гэты самы брат, быў хлопчык жвавы, непаседлівы, скоры да бойкі з сваймі сябрукамі...

Што казаць: самі ведаеце, якія задзіры гэтыя хлопцы.

Але апроч усяго гэтага, Наталька спаўняла і шмат важнейшыя справы. Ня раз і ня два пасылала яе маці з кацялочкам да сталоўкі. Возьме, бывала, Наталька ў адну руку кацялок, а ў другую квіточак, зашчэміць яго моцна і такою гэта важнаю асобаю йдзе па вуліцы да сталоўкі!

Вось і сёньня паслала мама Натальку прынясьці абед, бо самой маме ня было часу. Наталька жыва абулася ў свае старыя чаравічкі, прыбралася крыху, узяла медны кацялочак і выбегла на вуліцу.

Дзень быў ціхі, ясны, цёплы, нават гарачы. Побач вуліцы, як веснавыя паравалы, ішлі людзі featured рознага званьня. Усе яны кудысь сьпяшаліся, абганялі адны другіх, сустракаліся, разьміналіся, моцна занятыя сваймі справамі. Ї Наталька зьлілася з

гэтым людзкім перавалам і загубілася ў ім. Але яна добра ведала дарогу ў сталоўку. А вось і яна, гэта самая сталоўка, ўжо цэлы хвост народу таксама з кацялкамі і рознаю пасудаю стаяў каля дзьвярэй сталоўкі, чакаючы свае чаргі.

Сюды прылучылася і Наталька. Яна хацела стаць трошкі бліжэй да дзьвярэй, а ня ў самым хвасьце. Яна думала, што яе маленькі дзіцячы ўзрост дасьць ёй на гэта права.

— Куды плішчышся?—сярдзіта прамовіла ёй якаясь цётка: ці бачыш, якая вострая! Пазьней прышла, а першая хоча справіцца!

Наталька мусіла стаць у чаргу.

II

Покі Наталька спраўлялася ў сталоўцы, па вуліцы перашло і праехала шмат народу й нават шмат зьмен зрабілася тут за гэты час.

Каб хто стаяў тут і цікавіўся, то напэўна згледзеў-бы, як з варот аднаго двара высунуўся сабака. Відаць, што ён абегаў шмат двароў, абышоў многа закавулкаў, бо й яго сабачыя ногі троху прытаміліся.

Сабачае жыцьцё, наогул, заўсёды незайздроснае, а што датыча да гэтага вось часу, то й гаварыць няма чаго. Праўда, у сабакі многа вольнага часу, у чым яму можа пазайздросьціць цяпер і чалавек. Ніякіх павіннасьцяй ён таксама не нясе. Праўда, пабрахаць на чужога чалавека, калі ён зайдзе на двор або калі ў двор зачэшацца лапавухая дзёдзька, то звычайны сабачы абавязак падказвае выгнаць гэту асобу з двара, а каб у яе надоўга прапала ахвота даведвацца туды, куды яе ня просяць, то нават трэба схапіць яе за вуха або добра пацягнуць за хвост. Так і робяць добрыя сабакі ў вёсках. Але ў горадзе іншая справа, і гарадзкі сабака лічыць занізкім для сябе займацца гэтаю работаю. Затое-ж ён ня мае і ніякіх квіткоў, каб можна было па іх атрымаць дзе паёк.

Знашоўшы зацішны куточак у цяньку каля варот, Джон—так зваўся гэты сабака—прысеў, апусьціўшы вочы. Відаць, некія сабачыя думкі снаваліся ў яго галаве. Аб чым ён думаў, сказаць трудна; зірнуўшы на яго худое цела і паджары жывот, можна было дагадацца, што думаў ён аб няўдачах сёньнешняга дня і аб тых памылках, якія ён зрабіў, бегаючы і шукаючы

пажывы. Яго ня цікавілі ні гэты ясны веснавы дзянёк, ні людзі, што бязупынку ўсё шлі ды шлі, бы тыя хвалі вады. Проста ён сядзеў і разважаў. І сядзеў ён такім парадкам, покі не зачапіла яго муха. Тады Джон страсануў галавою, расплюшчыў як мае быць вочы і ўскінуў імі на муху.

Адляцеўшыся, муха зноў нацэльвалася на яго вуха. Але цяпер Джон быў на варце. І ня даў ёй прысесьці, бо не на тое-ж яму вушы, каб на іх садзіліся мухі.

Чуць толькі матнулася яна каля носу, Джон злаўчыўся — цап! Мухі як і ня было. Джон пачаўкаў сківіцамі, але карысьці ад мухі ня было ніякай, і ён выкінуў яе языком.

III

Гэты просты і звычайны выпадак з мухаю адзначан тут дзеля таго, што ён меў пачэснае месца ў цэлым зьвязку розных прычын таго нядобрага здарэньня, аб якім у нас і зачалася гутарка.

Муха перабіла думкі і настроі Джона, вывела яго з таго смутна-спакойнага задуменьня, якое магло-б скончыцца тым, што Джон проста заснуў-бы. Цяпер-жа ўсе яго думкі паразьляталіся, і ён чуць быў ня зьняўся з свайго кутка, каб павярнуць у двор. Але ў гэты момант штось смачнае і нязвычайна прыемнае заказытала яго нос. Джон адразу ўвесь зьмяніўся, захадзіў усім сваім целам, як-бы па ім прабеглі іскры. Вочы яго загарэліся і, кінуўшы імі туды і сюды, ён зараз-жа згледзеў маленькую Натальку. Джон крыху знаў Натальку. Колькі дзён назад забягаў ён у той двор, дзе жыла Наталька. Уладзік, схапіўшы кусок цэглы, замахнуўся, каб шпурнуць ім у Джона. Наталька схапіла Ўладзіка за руку...

— Нашто біць сабаку? Што ён табе зрабіў? Ці добра было-б, каб у цябе кінулі цэглаю?—сказала яна брату.

Ёй шкода было худога Джона і яна кінула яму костку. Джон з падзякаю зірнуў на Натальку, схапіў у зубы костку і пабег, павільваючы хвастом.

І вось цяпер, угледзеўшы добрую дзяўчынку і дазнаўшыся, што гэта з яе кацялка йдзе такі панадны пах, Джон замахаў хвастом, ня спускаючы з яе вачэй. А Наталька і ня бачыла яго, шла сабе паволі, пазіраючы на тое, што рабілася на вуліцы. А на вуліцы ў гэты час два чалавекі кудысь цяг-

нулі трэцяга. А той упіраўся, не даваўся, крычаў і лаяўся. Наталька пашла цішэй, гледзячы на гэту цікавую справу.

А Джон тымчасам ужо стаяў каля Натальки і ўсё віляў хвастом. Яго толькі непакоіла крыху тое, што Наталька ня бачыць яго і не зварачае на яго увагі. І вось як толькі яна параўнялася з ім, Джон, як-бы яго што падкінула, сарваўся, і кулём кінуўся да Натальки і з разгону таўхануў яе пад руку.

Кацялок упаў на брук. Наталька, падняўшы кацялок, дзе ў самым дне засталося колькі лыжак куляшу, стаяла і горка-горка плакала.

А Джон лізаў разьліты ім кулеш і ад вялікага здаваленьня павільваў хвастом.

# МАЛАДЫ ДУБОК

## I

— Ну, і людзі!—гаварыў сам сабе Максім Заруба:—ну, украў, ну, сьсек, хай цябе ліха сячэ; ды не рабі-ж ты на зьдзек чалавеку, не рабі так, каб кожнаму кідалася ў вочы твае злачынства, гіцлю!

Максім старанна аглядаў сьляды нядаўнай кражы ў яго абходзе. Высокі, у палавіну чалавека, дубовы пень ясна вызяляўся сярод дзеравяк і сьвяціў сваім сьветла-жоўтым верхам і сьвежымі трэскамі вокал, а шырокая разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі так невясёла, так смутна, бы тыя пакінутыя бацькам дзеці. Зірнуўшы ўгару, Максім угледзеў маладую бярэзінку з абламанымі галінкамі. Гэта дуб, звалены бязжаласным тапаром, кідаючыся, чапіў яе сваймі крэпкімі сукамі.

У лесе было ціха і маркотна, толькі ўгары стаяў глухі шум старых хвой і ялін. Высокія асіны і бярозы прылучалі зрэдка і свой голас да гэтага шуму, калі часамі дужэй падыхаў сыры, халодны вецер і варушыў іх голае вяцьцё. На гэтым месцы, дзе рос дуб, мала пазначылася прастору, і маладыя высокія елкі ўжо разгарнулі свае кашлатыя, зялёныя лапы і занялі месца дуба. Так і за сталом жыцьця, дзе сядзіць цесная людзкая сям'я, ня пустуе месца выхвачанага сьмерцю селяніна.

Максім трывожна азірнуўся вокал, зьняў з-за плеч сваю старасьвецкую стрэльбу і паставіў каля хвоі; дастаў з-за пояса сякерку і пачаў замятаць сьляды няўпільнованага злодзея. Ён ацерабіў верхавіну, пасьцягаў сукі ў гушчар, сьсек пень каля самай зямлі, завалок яго далей ад дарогі, пад выварат, а тое месца, дзе быў пень, закрыў зялёным мохам. Максім сам у гэты момант быў крыху злодзеем. Але яму больш нічога не аставалася рабіць, як прыкрыць сьлед гэтай кражы, каб самому не нагарэла ад лясьнічага.

Кончыўшы работу, Максім адышоўся крыху і азірнуў сваю працу, ці няма яшчэ якога знаку, па якім можна было-б за-

мецiць, што тут украдзен дуб. Усё было прыбрана гладка, але Максiму здавалася, што варта толькi зiрнуць аб'езчыку, каб прымецiць, што не хватае аднаго дуба. А можа аб'езчык раней яго агледзеў гэты недагляд, i ўжо вядома ў лясьнiцтве аб гэтай пакражы.

— I выбяра-ж часiну, паганец!—зноў разважаў з сабой Максiм.—Ну, каб папаў! Гужы, лейцы—усё пасек-бы.

Максiм нiяк ня мог супакоiцца. Ён вышаў на дарогу, куды вёў сьлед ак калёс. Але далей трудна было разабраць, куды ён пашоў: цi мала едуць па дарозе ва ўсе канцы? Максiм пастаяў, патупаў, як-бы разьбiраючы важную справу. На душы яго было цэлае пекла. Злосьць на таго, хто сьсек дуб, хто, як сумыслу, як на зьдзек яму, зрабiў гэту кражу, нiколечкi неклапоцячыся схаваць канцы; далей—страх перад лясьнiчым, страх за страту куска хлеба: даўно ўжо капаецца пад яго аб'езчык, ня раз пагражаў Максiму i лясьнiчы прагнаць яго з месца.

Усе гэтыя думкi й пачуваньнi i рабiлi тое пекла, што было на душы Максiма.

— I хто-ж бы мог зрабiць гэта?

Максiм пералiчыў колькi гаспадароў з вёскi, што былi ў яго ў вялiкiм падазрэньнi. Але, незлавiўшы, не кажы, што злодзей.

Максiм яшчэ раз прышоў на тое месца, дзе рос яшчэ ўчора прапаўшы дубок. Як дарагi нябожчык, стаяў ён у вачох беднага лясьнiка. Прыкрыўшы камель яловымi лапкамi, Максiм памалу пасунуў лесам.

Увесь гэты дзень, цэлы вечар i ноч ня меў Максiм супакою. Нават есьцi не хацелася яму. Нейкi страх i трывога душылi яго. Кiнуцца за весьнiцы на дарогу сабакi, забрэшуць на каго, цi так што здасца iх сабачаму розуму,—Максiм чуў, як у сярэдзiне ў яго нешта траслося, i яму здавалася, што гэта пэўна iдзе Марцiн з каморы ад лясьнiчага з наказам зьявiцца ў кватэру. Але сабакi, пабрахаўшы, змаўкалi, i патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на халодную, сырую зямлю, i яшчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес.

Старая вярба, стоячы над самай хатай, шумела i хiстала галiнамi па страсе i, як назло Максiму, гаманiла пра пакражу.

Стукне вецер у ваконiцу, Максiм уздрыгваў: яму думалася, што гэта лясьнiк цi аб'езчык.

II

Андрэй Плех даўно ўжо меў сабе на прымеце дубок у лесе. Яшчэ летам, соваючыся з каробкаю па грыбох, насунуўся ён на гэты дуб. Як чалавек, якога агарнулі грэшныя мысьлі, Андрэй наўперад азірнуўся і пачаў аглядаць важнецкае дрэва. Высокае, роўнае, выноснае, як точанае, яно, здавалася, сумыслу тут вырасла на спакусу чалавека. „А, пся крэў яго, што за дуб!“ думаў Андрэй: „от былі-б восі! А якія хвацкія вышлі-б паліцы на сохі“ (Андрэй быў майстар па часьці сох). Ды ня так-то лёгка ўхопіш яго тут: сьсячы, пападзіся,—такі табе штраф закоціць земскі, што і кароўкаю не адапхнешся. І Андрэй, яшчэ раз акінуўшы вокам дубок, уздыхнуў і паплёўся дамоў. На ўсякі выпадак ён замеціў гэта месца. Скора пачалося жніво, і Андрэй забыўся аб дубку, але, як на грэх, у яго колах разышліся сьпіцы. Трэба было думаць, як справіць новыя колы. На калодкі і вобады Андрэй меў пра запас бярэзіну, добрую баравую, чачоткавую бярэзіну з казённага лесу. Гэта Мікола Сіняўскі ўдружыў яму. А дзе-б узяць дубінкі на сьпіцы? І адразу ў яго вачох устаў малады дубок, што бачыў у лесе, зьбіраючы грыбы.

Бадай ня кожны дзень думкі Андрэя вярцеліся каля гэтага дубка. Кепска толькі, каб яго качкі, калі пападзешся з ім. Праўда, у лесе красьці ня грэх. Гэта ня тое, што залезьці да чалавека ў хату. І хто ў лесе ня злодзей, той дома не гаспадар. Лес—божы: бог яго росьціць і бог гадуе. А князя чорт ня возьме, калі ён, Андрэй, сьсячэ адзін дубок. Так разважаў вечарамі Андрэй, пыхкаючы люльку.

Раз пад вечар—гэта было ў нядзелю—Андрэй ішоў з места. І так неяк зрабілася, што ногі Андрэевы самі пашлі па тэй дорозе, каля якой стаяў гэты шальмоўскі дубок. Андрэй ня мог стрымацца, каб не даведацца свайго даўнейшага знаёмага. Лес быў ужо зусім бяз лісьця, і малады дубок выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыгажэйшым.

— Ах, злодзей!—гаварыў, цешучыся, Андрэй і аглядаў дубок.

Ідучы дамоў, Андрэй вылічаў, калі схадней яго сьсячы. Квадра месяца пры гэтым стаяла ў Андрэя на першым пляне. Праз колькі дзён будзе маладзік. Вось тады ён і зызьне яго.

Якраз перад „усімі сьвятымі“, натачыўшы сякерку, Андрэй ціха казаў свайму сыну:

— Запражэш каня і пад'едзеш пад Доўгі Лужок. Я буду там чакаць цябе. Ды глядзі, калі хто спытае, куды едзеш, скажы—па каноплі.

Андрэй выбраў такія сьцежкі, дзе-б яго ніхто не спаткаў: асьцярога не пашкодзіць, і ішоў, прыгнуўшы галаву. Аднак, чым бліжэй падходзіў ён да лесу, тым большы чуў ён страх, А мрок—густы, халодны, няпрыветны—нярухома аблягаў зямлю. Ціха. Глуха. Хоць-бы зык чалавечага голасу. І нейкая жуда. ахапіла Андрэя. Пачуваньне маркоты і адзіноты агарнула яго. Андрэй азірнуўся назад, на сяло. Скрозь цемрадзь прыветна сьвяціліся вокны сялянскіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі. Там сядзелі людзі, і на душы ў іх была згода. Толькі ён, як злодзей, крадзецца адзін скрозь гэты мрок, прыхільнага хаўрусніка кожнага злодзея.

Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу. Лепш-бы паставіць кварту за кусок дубіны—і сам выпіў-бы чарку і быў-бы сьмелы і спакойны. І яму хацелася, каб хто перашкодзіў яму цяпер, каб мецъ законнае права вярнуцца дамоў. Так было на душы Андрэя; а ногі яго ўсё несьлі і несьлі ў гэты страшны, пануры лес, дзе цяпер так цёмна і жудасна. Яшчэ гусьцейшы і цяжэйшы мрок апрануў Андрэя, як ён уступіў у лес. Падышоўшы з паўвярсты, Андрэй спыніўся. Во тая хвоя з вехаю, ад каторай трэба ступіць колькі крокаў направа. Патупаўшы, Андрэй сяк-так намацаў гэты дубок, каторага старажыў ня толькі Максім, а яшчэ пільнавалі і другія старажы, каторыя былі ў самым Андрэі—страхі. Андрэй прыслухаўся. Лес маўчаў. Можа ён зацікавіўся, што будзе рабіць тут гэты чалавек, чаго ён прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да сьмерці сон. І было штось страшнае ў гэтым нямым спакоі лесу, і гэты страх перадаваўся Андрэю: ён стаяў ціха, баяўся кашлянуць і павольна адводзіў яловыя лапкі. Калі-ні-калі жалобна шорхаў сухі, завяўшы ліст, адрываючыся з дзерава і кідаючыся на сыры дол.

— Ну, што будзе, то будзе.

Андрэй узяў сякерку. Сякерку высока паднялася ўгару. Пачуўся першы стук. Вострая сталь глыбока ўрэзалася ў маладое

дрэва, і гэты першы зык быў падобны да цяжкага, адрывістага кашлю, які вырываўся з глыбіні надарваных грудзей сухотніка.

Андрэй, секануўшы раз, адскочыў у бок і на момант замёр, прыслухоўваючыся. Але вакол было таксама глуха і ціха.

Зноў узьляцела сякера і пашла латашыць усё часьцей і злосьней. Скора адна палавіна дубка была падсечана. Андрэй зашоў з другога боку. З кожным узмахам сякеры дуб слабеў і хістаўся, дрыжэў голымі сукамі і ўсім сваім целам. Во ён чуць пахіліўся, абамлеў і, здавалася, аглядаў месца, дзе-б упасьці. Андрэй упёрся рукой і таўхануў яго. Голыя сукі крануліся сукоў суседніх дзеравяк, як-бы жагнаючыся з жыцьцём, зачапіліся на момант і, аслабеўшы, асунуліся, і маладое дзерава цяжка ўпала, застагнаўшы, на зямлю.

Андрэй адышоўся і стаў слухаць. Адмерыўшы чатыры тапарышчы па камлі, Андрэй з нейкаю злосьцю стаў адсякаць кавалкі дуба. Адсекшы кавалкаў шэсьць, ён пазнасіў іх на дарогу. Спадалёк пачуўся глухі стук колаў аб карэньне. Андрэй пашоў на спатканьне сыну.

III

Яшчэ ніколі не зазнаваў Андрэй такога клопату, як цяпер. Не дарма гавораць людзі: „Хто ўкраў парасё, таму і ў вушох пішчыць“. Прывёзшы да хаты шэсьць кавалкаў дуба, Андрэй да часу паскідаў іх на старану, дзе ляжала яшчэ немалочанае жыта і салома. Прызнацца, Андрэй нават ня рад быў, што сьсек гэты дубок: мала што можа стацца! Быць ня можа, каб хто ня бачыў, як ён пхаўся ў ночы з лесу. А языкі ў людзей доўгія. Пад уплывам гэтых думак Андрэй быў неспакойны: спаў кепска і часта абуджаўся, прыслухваўся, што робіцца на двары.

Кожны гук, шум, абронёнае кім на вуліцы слова прымушалі трывожыцца і думаць чорт ведае што. І якая гэта схованка—гумно? Усякі дурань першым дзелам паткне туды свой нос. Тут Андрэю прышлі на памяць тыя здарэньні, калі ў гаспадароў знаходзілі дубкі, бярэзінкі і ўсякія падобныя рэчы якраз у гумнах... Трэба перахаваць і чым скарэй, тым лепей—покі не ўзялі яшчэ тропу.

— Што гэта, Андрэй, на цябе сягоньня сну няма?—пыталася жонка.

— Так, ня сьпіцца.

І. памаўчашы, Андрэй сказаў:

— Ведаеш, я ўсё думаю, каб не агледзеліся гэтага дубка.

— Можна-ж схаваць так, каб не знашлі.

— Вось і я гэта думаю: у гумне якая схованка? А дзе схаваць?

— Схаваеш заўтра—будзе часу. А цяпер сьпі.

Жонка адвярнулася да сьцяны і праз мінуты дзьве заіграла носам. А Андрэй яшчэ доўга ляжаў з адкрытымі вачыма і разважаў. Страшныя думкі лезьлі ў яго галаву. А што, калі хто ўдасьць яго? Прыдзе ураднік, стражнікі з аб'езчыкам і лясьнікамі, зробяць вобыск і напэўна знойдуць у яго дубок. Зноў Андрэю ўспаміналіся падобныя здарэньні. Моташна раблася ад гэтых думак. Андрэй усунуўся ў шляпакі, накінуў на плечы кажух і вышаў на двор.

Якая цёмная ноч! Здавалася, неба блізка-блізка нахілілася к зямлі і ціснула яе сваім густым і цяжкім мрокам. І ўсё вакол было так глуха, так нема, усё роўна як закамянела або вымерла. Андрэй зірнуў у той бок, дзе быў лес. Яго аж скаланула: здаецца, цяпер каб і золатам абсыпалі яго, ён не пашоў-бы туды; як толькі хапіла ў яго адвагі ісьці туды, у такую цемрадзь! У сяле было таксама ціха і глуха, нават сабакі і тыя ўсе змоўклі; відаць, і яны чулі гэты страх магільнай цішы і не адважваліся зрабіць між сабой пераклічку. Толькі ў Яхіма хлявушку забляяла жаласна ягнятка, згубіўшы сваю матку, і зараз-жа пачуўся кароткі адказны водклік старой авечкі: „Ідзі да мяне!“ ды часамі ў сьвінушніку ціха стагнала праз сон сьвіньня такім змарнелым, стамлёным галаском, усё роўна якбы ёй заставалася тры чвэрці да сьмерці.

Андрэй пастаяў, паслухаў. Гэта маўчалівая і страшная ноч не дала яму ніякага адказу, і ён пашоў у хату.

„Сягоньня яшчэ можна быць сьмелым“, думаў Андрэй, кладучыся на палок і ўкручваючыся ў дзяругу. „Пакуль тое ды сёе, то яшчэ ёсьць часу схаваць, а цяпер можна спаць сьмела“. Але Андрэй ляжаў яшчэ з паўгадзіны і думаў, як хітрэй схаваць дубкі. На гэтых думках Андрэй і заснуў. І прысьніўся яму сон. Здаецца, прышоў лясьнік, Максім Заруба, у чыім абходзе ён высек дубок. Прышоў ня злосны, як можна-б чакаць, а надта маркотны. Твар яго быў белы, як вымазаны мукой.

